# СТУДЭНСКАЯ

ПУБЛІКАТКА СУПОЛКІ „Сьвітанак"




# ДУМКА



## № 3

АНОНС І ЛАПІ АЯ? СЕ ЦІ СЭ?З ЦІ ЗЬ

Сёй-той дзІвІцца мове нашага выданьня: маўляй, змагаемся за беларушчыну, а робІм памылкІ. Але напІсаньнІ сьвята, сэсІя, плян — гэта не памылкІ. Гэта — вяртаньне да незамутнёных крынІцаў нашага Адраджэньня І905 — І930 гадоў, гвалтоўна зрэзанага касою сталІнскІх рэпрэсІяў. СталІнская рэформа правапІсу І граматыкІ І933 году мела адзІную непрыхаваную мэту: "наблІзІць" беларускую мову да расейскае, хутчэй спраўдзІць прароцтва "отца народов" пра "зьлІцьцё" моваў.

У словах сьпеў, сьцяна, зьмена, дзьверы першы гук вымаўляецца мякка, таму тут І пІшацца мяккІ знак. Ну, а Іншамоўныя словы: клямка І плян, сакрэт І сэсІя — спрадвеку ў нас вымаўлялІся блІзка да арыгІналу /зь мяккІм ль І цьвёрдымІ ІншымІ зычнымІ перад э/.

У задумах рэдакцыІ — грунтоўны артыкул на гэты тэмат.

Рэдакцыйная суполка

## А ШТО БЫЛО!?.

І4 — І5 СТУДЗЕНЯ І989 ГОДА Ў ВІЛЬНІ ПРАЦАВАЎ ІІ ВАЛЬНЫ СОЙМ /УСЕАГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД/ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЯТЫЧНЫХ СУПОЛАК.

Чаму ў ВІльнІ, вІдаць, запытае шаноўны чытач. Адказ на гэта можна часткова знайсьцІ ў газэце "Правда" ад І7 студзеня.

Атмасфэра грамадзкага ўздыму, якая панавала на паседжаньнях, добрая арганізацыя Сойму з тэхнІчнага боку /харчаваньне, начлег І г.д./ шыкоўная мастацкая частка /бардаўская й народная песьня, вершы/ пакІнулІ, трэба спадзявацца, незабыўныя ўражаньнІ ў сэрцы кожнага ўдзельнІка.

ВынІкам Вальнага Сойму зьяўлляецца стварэньне КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК, прыняцьце Праграмы, зацьверджаньне шэрагу рэзалюцыяў І зваротаў, абраньне Каардынацыйнае Рады.

Сёньня мы зьмяшчаем на старонках "Студэнцкае ДумкІ" Зварот ІІ-га Вальнага Сойму да Беларускага Студэнцтва, а таксама камэнтуем асобныя ягоныя часткІ.

# Зварот 2-га Вальнага Сойму да Студэнцва

II Вальны Сойм беларускIх суполак зьвяртаецца да цябе, БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦТВА, з заклIкам:

С Т В А Р А Й М А   Б Е Л А Р У С К I
С Т У Д Э Н Ц К I   С А Ю З !

ТолькI згуртазаўшыся, мы здолеем годна баранIць свае Iнтарэсы I дамагчыся таго, каб нашае слова было пачута грамадзтвам.

I. Патрабуйма найперш заканадаўча аднавIць даўнюю, агульнаэўрапейскую, а гэта знача I беларускую, традыцыю аўтаномII установаў вышэйшае адукацыI! ВНУ павIнны быць тэрытарыяльна незалежныя I мець права выданьня вольнага друку.

2. Патрабуйма адмаўленьня ад сэмэстравае сIстэмы навучаньня. Студэнт мусIць вольна абIраць прадметы ды выкладчыкаў!

3. Патрабуйма шырока практыкаваць пасылку лепшых студэнтаў па веды за мяжу.

4. Патрабуйма ўвядзеньня права ВЭТА для студэнцкай фракцыI ў Навуковай радзе Iнстытута па пытаньнях навучальнага працэсу I побыту студэнтаў.

5. Патрабуйма публIчнага разьмеркаваньня стыпендыяў I мейсцаў у Iнтэрнатах!

6. Змагаймася за павялIчэньне стыпэндыяў!

7. Змагаймася за ўвядзэньне рэспублIканскага грамадзянства, зь якога вынIкае разьмеркаваньне для студэнтаў-грамадзянаў БеларусI па РэспублIцы.

8. Змагаймася супраць прызыву студэнтаў у войска пад час вучобы

9. Змагаймася за рэформу вайсковага навучаньня ў ВНУ, а менавIта:
- за скасаваньне яго абавязковасьцI для дзяўчат;
- за добраахвотнасьць навучаньня на вайсковых катэдрах для тых, хто адслужыў у войску;
- за адпаведнасьць вайсковае спэцыяльнасьцI грамадзянскай;
- за падпарадкаванасьць вайсковых катэдраў ВНУ.

10. Змагаймася за беларусIзацыю навучальных установаў!

II. Патрабуйма выпрацоўкI ды ўвядзеньня канцэпцыI сярэдняй I вышэйшай адукацыI, найбольш адпаведнай беларускIм нацыянальна-культурным традыцыям!

I2. Дамагаймася скасаваньня прапусковай сIстэмы ў Iнтэрнатах.

I3. Дамагаймася скасаваньня "фэадальных павIннасьцяў": прымусовае сельскагаспадарчае працы, удзелу ў афIцыйных дэманстрацыях, ДНД.

I5 студзеня, места ВIльня

# ЦІ ЁСЬЦЬ ТРАДЫЦЫІ ?

Вышэйшыя навучальныя ўстановы Эўропы – спачатку антычныя акадэміі, а потым сярэднявечныя ўнівэрсытэты – пры сваім узьнікненьні мелі характар вольных суполак моладзі, якая аб'ядналася дзеля здабываньня ве-

даў вакол прызнанага навуковага лідэра. У гэтых суполак магло быць сталае мейсца, як напрыклад сад Акадэма ў вучняў Платона !адсюль "акадэмія"!, альбо арыстотэлеўскі Лікей, а магло і ня быць прытулку, і тады майстра ведаў вандраваў з вучнямі зь мейсца на мейсца !як напрыклад Піфагор!. Сярэднявечныя ўнівэрсытэты далі праобраз сучасных ВНУ, зь іх складанай структурай факультэтаў, катэдраў, спосабу выкладаньня дысцыплінаў й набыцьця навуковае кваліфікацыі. А самі яны ўтварыліся па вобразу прафэсійных сярэднявечных карпарацыяў.- рамесьнікаў, лекараў, юрыстаў і г.д. Унівэрсытэт меў шэраг пагадненьняў з уладамі - сьвецкай ці духоўнай, — якія былі заканадаўча сфармуляваныя і надавалі ўнівэрсытэту пэўную свабоду самакіраваньня. Гэтую свабоду адабраць можна было б, толькі разбурыўшы карпарацыю вучняў і настаўнікаў. У гэтым выпадку, вучні, якіх пазбавілі сваіх правоў і магчымасьцяў, падаваліся ў іншы горад, да іншых настаўнікаў, якія былі больш здольныя абараніць унівэрсытэцкі вольны лад жыцьця. Таму настаўнікі і самі стаялі за абарону ўнівэрсытэцкіх прывілеяў, бо былі зацікаўленыя ў тым, каб студэнты паважалі іх ды цілі слухаць менавіта іх лекцыі. Бо кожны студэнт быў вольны абіраць настаўніка, мейсца навучаньня на сваім уласным гусьце. І зараз у дэмакратычныхдзяржавах студэнты маюць гэткую магчымасьць Яны запісваюцца на курс таго прафэсара, які дае, на іх погляд, больш цікавую ды зьмястоўную інфармацыю. Агульных жа курсаў, абавязковых для ўсіх навучальных установаў цэлай краіны, як гэта вядзецца ў нас, там проста не існуе. Бо і сапраўды, гэта абсурдна -- распавядаць "агульныя мейсцы", калі ты валодаеш арыгінальнымі ведамі, якімі маеш здольнасьць і патрэбу падзяліцца з вучнямі.

Што датычыцца беларускае гісторыі — дык варта зазірнуць у канец ХУІ стагодзьдзя, каб знайсьці і ў нас карэньні эўрапейскае ўнівэрсытэцкае традыцыі — у 1579 г. ў Вільні ўзьнік унівэрсытэт, дарэчы зь бясплатнай сістэмай навучаньня, дзе здабывалі веду выхадцы ўсіх без выключэньня слаёў грамадзтва. Гэты ўнівэрсытэт актыўна падтрымоўвала каталіцкая царква і грамадзка-палітычная эліта Вялікага княства Літоўскага. У далучэньні беларускае моладзі да скарбаў эўрапейскае культуры гэты ўнівэрсытэт адыграў вялікую ролю.

**Ларыса Чарнышова**

# ПРЭЧ СЭМЭСТРОЎКУ!..

Перш за ўсё, каб хоць крыху выправіць жахлівае становішча вышэйшай адукацыі ў краіне, трэба ўвесьці вольны запіс студэнтаў да лектара. Плаціць выкладчыку ў адпаведнасьці з колькасьцю запісаных.Гэта нарэшце прымусіць выкладчыка зьмяніць запас ведаў шматгадовае даўнасьці.

Цяперашняя сістэма адукацыі цалкам зжыла сябе, яна шмат гадоў не пераглядалася. У заходніх краінах даўна перайшлі на гэтак званую сістэму індэксацыі, пры якой студэнту дасцца некалькі заданьняў за якія налічваюць !адпаведна складанасьці! пэўную колькасьць балаў. Калі студэнт набраў яе, іспыт яму здаваць увогуле неабавязкова, але кожны імкнецца набраць найбольш балаў і звычайна ўсе здаюць экзамэны, але без усялякае "падрыхтоўкі" — як у нашых ВНУ.

Як мага хутчэй трэба ўвесьці друкаваныя канспэкты лекцыяў, што пазбавіць студэнта непрадукцыйнай працы, дазволіць яму засяродзіцца на асэнсаваньні інфармацыі. У Амэрыцы, напрыклад, пасьля асэнсаваньня матар'ялу студэнты ідуць на лекцыю і задаюць пытаньні выкладчыку для высьвятленьня незразумелага. Ведама, аніякага прымусовага наведваньня альбо ціску з боку адміністрацыі там быць проста ня можа.

Калі ж дачакаюцца беларускія студэнты прагрэсіўных зьменаў у ВНУ ?

**Аляксей Трусаў**

# НАКОНТ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ГРАМАДЗЯНСТВА... І ...

Апошнім часам шырока дыскутуецца пытаньне аб увядзеньні рэспубліканскага грамадзянства. У студэнцкім асяродзьдзі часта даводзіцца чуць: "Ці ж гэта так неабходна? Ці не прынясе гэта больш шкоды, чым карысьці? Ці ня ёсьць патрабаваньне аб увядзеньні грамадзянства, а таксама дзяржаўнасьці беларускай мовы — праявай нацыяналізму, пашырэньнем правоў аднаго народа за кошт іншых?" Гэтакае неразуменьне,як мне здаецца, вынік, па-першае, таго, што студэнты проста ня ведаюць, якія правы дае грамадзянства тэй ці іншай краіны ва ўсім дэмакратычным сьвеце, а па-другое, амаль ніхто ня можа ўявіць сабе, якім шляхам яно можа быць уведзена. А пра тое, што рэспубліканскае грамадзянства непасрэдным чынам уплывае на лёс студэнта, дык ніхто нават і не здагадваецца...

Клясычным прыкладам для абгрунтоўваньня неабходнасьці прыняцьця закона пра рэспубліканскае грамадзянства сталі Эстонія ды Латвія. Вялікадзяржаўная асіміляцыйная палітыка !маем на ўвазе бессэнсоўную міграцыю, механічнае мяшаньне людзей розных нацыянальнасьцяў і г.д.! давяла да таго, што эстонцы і асабліва латышы сталі ледзь не нацыянальнымі меншасьцямі на сваёй спракаветнай этнічнай тэрыторыі. Але далёка хадзіць ня трэба, азірнемся й мы, беларусы, наўкола.

Беларусы, як ведама, вялікая нацыя. Яшчэ ў 19 стагодзьдзі наш славуты зямляк, Адам Міцкевіч чытаючы лекцыі ў Парыжы, казаў, што на беларускай мове гавораць каля 10 млн. чалавек. Агульная колькасьць латышоў, да прыкладу, складае сёньня каля 3-ох млн. З гэтае прычыны русіфікацыя першых і апошніх істотна розьнілася. Калі ў маленькай Эстоніі саюзным ведамствам было дастаткова збудаваць некалькі супэргігантаў прамысловасьці ды завербаваць на йіх тысячы работнікаў з розных куткоў "вялікай і неабсяжнай", дык гэта ўжо сталася ледзь не катастрофаю для эстонскага этнасу. Рашчыніць !растварыць! жа 10 мільёнаў беларусаў было ня так проста, таму быў абраны іншы шлях. Зганьбіць у вачох беларусаў іхняю ўласную мову і нібыта самохаць !дабраахвотна! прымусіць адмовіцца ад яе. "Гасьцінна" прапанаваць замест яе расейскую.

Але ў больш адлеглай пэрспэктыве нельга ўсё ж беларусам забывацца на магчымасьць русіфікацыі шляхам некантраляванай міграцыі. Яскравым водгаласам яе можна лічыць сёньня разьмеркаваньне беларускіх студэнтаў па абшары СССР. Аніяк гэта нельга тлумачыць "эканамічнымі патрэбамі". Спашлюся на разьмеркаваньне студэнтаў лесагаспадарчага факультэта ў нашым БТІ. Вось ужо некалькі гадоў, як выпускнікоў ЛГФ накіроўваюць на працу "в места не столь отдалённые": раёны Сібіры, Далёкага Усходу і г.далей. Цікава, што шмат студэнтаў, якія прыехалі вучыцца з Расеі, застаюцца чамусьці працаваць на Беларусі. Хаця йім, відаць, "сам бог велел" падымаць адсталыя раёны Сібіру. Робіцца гэта пад любым варункам, ці то шлюб, ці то перабольшаваньне ў балах у параўнаньні зь іншымі студэнтамі, ці то яшчэ нешта. Дарэчы, сістэма падліку балаў ужо цалкам састарэла, бо ўлічвае найперш не разумовыя здольнасьці, а недарэчныя ўдзелы ў самадзейнасьці, ДНД, падлікі пропускаў заняткаў і г.д. Ня менш дзіўным падаецца і тое, што, маючы ў Расеі ня менш чым тры /гэта дакладна вядома мне/ ВНУ нашага профілю, РСФСР ня здольная падрыхтаваць спэцыялістаў для сваёй гаспадаркі.Што прасьцей — рыхтаваць кадры, абапіраючыся на мясцовыя працоўныя рэсурсы /жыхароў Сібіру, якія добра ведаюць рускую мову, традыцыі, побыт, якім ня трэба шукаць кватэру, якіх ня трэба перавозіць на вялікія адлегласьці і г.д./, ціто забясьпечваць уздым адсталых ускраінаў кош там беларусам, украінцаў дый іншых "кярускіх" народаў. Палітыка вядомая: стварыць масу /насельніцтва/ пазбаўленую ўсялякіх каранёў, традыцыяў, мовы бацькоў, масы, якая не адчувае сябе гаспадаром на зямлі, дзе жыве, не адчувае ад-

казнасьці за свае дзеяньні. Кіраваць жа гэткімі кватарантамі для бюракратыі вельмі зручна, паколькі маса гэтая не згуртаваная. Яна пазбаўленая агульнанацыянальнай псіхалёгіі і псіхікі, яна не адчувае агульнанацыянальных інтарэсаў, яна страціла свае нацыянальныя сьвятыні. Дарэчы, сімптомы гэтай небясьпечнай хваробы мы добра бачым сёньня на Беларусі. Беларусы, як нацыя, у большасьці дэнацыяналізаваныя, пазбаўленыя нацыянальнай самасьвядомасьці. Гэта не дае магчымасьці нацыі адчуць сваю еднасьць, згуртавацца і абараніць свае сацыяльныя, нацыянальныя й іншыя правы. Чаго ня скажаш, напрыклад, пра эстонцаў ці латышоў.

Відавочна, што студэнты-грамадзяне Беларусі павінны мець гарантаванае мейсца працы на абшары Беларусі. Забясьпечыць такое права можа толькі рэспубліканскае грамадзянства! Увогуле, разьмеркаваньне павін на насіць толькі характар гарантаванай магчымасьці ўладкавацца на працу. А ўладкуешся ты на прапанаванае мейсца ці знойдзеш нешта лепшае — гэта ўжо твая асабістая справа.

Што ж такое грамадзянства і як яно можа быць уведзена ? Зыходзячы з таго, што Беларуская ССР — сувэрэнная дзяржава /артыкул 68 Канстытуцыі БССР/, а дзяржаву ва ўсе часы характарызавалі тры асноўныя прыкметы — тэрыторыя, дзяржаўная ўлада і народ, разгледзім йіх паасобку, больш дэталёва спыніўшыся на апошнім.

Агульнавядома, што сёньняшнія межы БССР не адпавядаюць межам рассяленьня беларускай нацыі, але так ці інакш гэта не выклікае да цяперашняга часу вострых праблемаў. У будучыні, калі спадзявацца на дэмакратычны лад дзяржаваў, у тэрыторыю якіх будуць уключаны тэрыторыі беларускай нацыянальнай меншасьці, трэба думаць, беларусы за межамі БССР атрымаюць усе магчымасьці для свайго сацыяльнага й нацыянальна-культурнага разьвіцьця. Але вернемся да тэрыторыі. Так ці інакш, БССР, як дзяржава, валодае пэўнай тэрыторыяй.

Больш складанае пытаньне дзяржаўнае ўлады, як прыкметы сувэрэннасьці. Хаця Беларусь і мае свой урад і парлямэнт, але ж сапраўднае сувэрэннасьці вярхоўнае ўлады на сваёй тэрыторыі ў яе няма, паколькі большасьць пытаньняў вырашаецца ў Маскве саюзнымі органамі. Да таго ж Канстытуцыя СССР /арт. 73/ дазваляе саюзным органам умешвацца ў жыцьцё рэспублікі практычна па любым пытаньні. Трэба ў найбарджэйшым часе ўзнавіць абвешчаны Канстытуцыяй БССР сувэрэнітэт Беларусі. Стасункі паміж сувэрэннымі дзяржавамі павінны будавацца на дамове. Ніхто, у тым ліку і цэнтральныя органы Саюзу, ня могуць быць вышэйстаячымі адносна рэспубліканскіх органаў, законы саюзнай рэспублікі мусяць мець на яе абшары прыярытэт перад агульнасаюзнымі законамі. У іншым выпадку няма нават мовы пра сувэрэнітэт у яго агульнапрызнаным дзяржаўна-прававым сэнсе.

Разгледзім цяпер трэцюю прыкмету дзяржавы — народ /дарэчы, самае заблытанае паняцьце ў савецкім дзяржаўным праве/. Ва ўсіх краінах насельніцтва падзяляецца на грамадзянаў, асобаў без грамадзянства і на замежных грамадзянаў. Што ж адрозьнівае грамадзянаў ад іншых асобаў, што пражываюць у дадзенай дзяржаве? Галоўным чынам тое, што грамадзяне маюць палітычныя правы, а астатнія не. Галоўнае палітычнае права грамадзянаў — гэта права абіраць ды быць абраным, браць удзел у кіраўніцтве дзяржавай. Грамадзяне таксама маюць права на абарону сваёю дзяржавай як на радзіме, гэтак і за мяжою. Апроч правоў, на грамадзянаў ускладваюцца дзяржавай пэўныя абавязкі. Галоўны зь йіх — абарона дзяржавы. Хаця ў Канстытуцыі БССР сустракаецца паняцьце "грамадзянін Беларускай ССР", але ж зьмест гэтага паняцьця не раскрыты / не распрацаваны закон аб грамадзянстве /, да таго ж гэтае паняцьце касуецца артыкулам 31 Канстытуцыі БССР, які цьвердзіць, што ўсе грамадзяне СССР карыстаюцца на абшары БССР аднолькавымі з грамадзянамі рэспублікі правамі. Гэта вядзе да таго, што інтарэсы Беларусі прадстаўляюць грамадзяне СССР, якія не жывуць на Беларусі, але ж праблемы Беларусі мусім вырашаць мы самыя. Адным словам, калі мы гаворым пра

неабходнасьць стварэньня прававое дзяржавы, пра пераход на гаспадарчы разьлік, дык неабходна нэймерш усталяваць грамадзянства на ўзроўні рэспублікі.

І напрыканцы колькі словаў пра шляхі яго ўсталяваньня... Гэтае пытаньне вельмі важнае, бо фактычна з-за яго ўзьнікаюць шматлікія непаразуменьні паміж прадстаўнікамі карэнных нацыянальнасьцяў і іншымі людзьмі, якія жывуць зараз на тэрыторыях саюзных рэспублік. У адпаведнасьці з Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека пад час уступленьня ў моц закона аб грамадзянстве яго аўтаматычна атрымоўваюць усе асобы, якія ў гэты час маюць устойлівыя прававыя стасункі зь мясцовай

/заканчэньне на старонцы 16/

# ЦІ МОЖАМ МЫ ЗАРАЗ СТВАРЫЦЬ СТУДЭНЦКІ САЮЗ?!

Пад сьцягам ПЕРАБУДОВЫ сустрэлі мы 70-годзьдзе абвешчаньня Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Але разам з тым нейкае дзіўнае пачуцьцё будзіць гэтая гадавіна ў кожным беларускім сэрцы. 70 гадоў Суверэннай Беларусі! Але дзе яна? Так, мы жывем лепей, чым нашыя дзяды ды прадзеды, але ж гэта і вельмі мала ў параўнаньні з тым, пра што марылі яны. Ідэал АДРАДЖЭНЬНЯ, які пачаў спаўняцца ў 20-х гадох, быў гвалтам закрэсьлены сталінскім генацыдам, фашыстоўскай акупацыяй, хрушчоўскай сваволяй і брэжнеўскім застоем. Мы зноў стаім перад неабходнасьцю пачынаць усё спачатку!

КУДЫ ІСЬЦІ ДАЛЕЙ ?!

Дзеля гэтай высакароднай МЭТЫ на Беларусі пачаў фармавацца Беларускі Народны Фронт за перабудову "АДРАДЖЭНЬНЕ". Ці можа беларускае студэнцтва стаяць убаку ад гэтага? Не, сто разоў не!!! Беларускі студэнт мае быць найяскравшым прыкладам аддана сьці справе АДРАДЖЭНЬНЯ — адраджэньня эканамічнага, сацыяльнага, нацыянальнага, культурнага, палітычнага, адраджэньня ўласнай годнасьці кожнага.

Варункі нашага жыцьця склаліся так, што цяпер студэнцтва зьяўляецца найбольш сацыяльна-актыўнай часткай нашага грамадства. Але студэнцтва зьяўляецца і найбольш бяспраўнай яго часткай. Менавіта студэнцтву разам зь лепшымі сіламі грамадства наканавана адбудоўваць будынак БАЦЬКАЎШЧЫНЫ.

Ці ж дарасло нашае студэнцтва да гэтага? І так, і не.

Так, бо сярод сёняшняга студэнцтва вырастаюць безумоўна барацьбіты за ідэю! І не, бо пры бюракратычнай сістэме выхаваньня шмат усё ж у студэнцкіх шэрагах "кандыдатаў на пасады", шмат і тых, хто зракаецца і цураецца свайго роднага, беларускага! І тым ня менш мы спадзяемся, што студэнцтва адгукнецца на наш заклік, і ўсе разам мы створым незалежны

БЕЛАРУСКІ СТУДЭНЦКІ САЮЗ.

Браты!

Настаў час выбіраць:

— альбо згуртавацца пад нацыянальным сьцягам у імя АДРАДЖЭНЬНЯ,
— альбо кожнаму пзасобку сысьці на бездараж і са спакойным сэрцам назіраць, як БАЦЬКАЎШЧЫНА адыходзіць у нябыт, і ніхто праз сто год не згадае, што была на сьвеце краіна — БЕЛАРУСЬ і народ — БЕЛАРУСЫ!

Рэдакцыйная суполка

# ІНТЭРВ'Ю З АЛЕГАМ БЕМБЕЛЕМ

"БЕЗЬ МЯНЕ НІЧОГА НЯ ЗРОБІЦЕ..."

Шаноўным госьцем II-га Вальнага Сойму быў шырока вядомы сярод моладзI, сярод адраджэнцаў паэта — Алег Бембель. Рэдакцыя "Студэнцкае ДумкI" даўна меркавала зьмясьцIць на сваIх старонках ягоныя вершы. Зручны выпадак узяць у пана Алега Інтэрв'ю прысьпешыў гэтую задуму. Але напачатку колькI словаў пра нашага шаноўнага суразмоўцу. У мінулым навуковы супрацоўнIк Інстытута ФIлязофII й права АН БССР Алег Бембель падрыхтаваў /яшчэ ў "застольныя" часы/ найвыдатнейшую кнIгу "Роднае слова I маральна-эстэтычны прагрэс". КнIга складалася з 300 старонак выказваньняў пра лёс мовы /разнастайных у аб'ёме/ ананIмных аўтараў, дзе былI, праўда, акрэсьленыя ЙIхнIя прафэсII, узрост, нацыянальная прыналежнасьць ды зрэдку й мейсца жыхарства. Апроч таго, напачатку была зьмешчаная падборка выказваньняў вядомых пIсьменьнIкаў пра мову, а пры канцы—навукова-публIцыстычны трактат самога аўтара пра стан нацыянальна-эстэтычнага выхаваньня ў рэспублIцы. КнIга гэтая стаяла напат у тэматычным пляне аднаго з беларускIх выдавецтваў, праўда, у хуткIм часе была выкрасьленая зь яго без хоць якога тлумачэньня. Тым часам кнIгу хутка выдрукоўваюць беларусы ў Лёндане. Гэткая "варожая зьява" змусIла нашую бюракратыю даць "прынцыповую партыйную адзнаку" падрыхтаванай панам Алегам кнIзе. Але ж калI параўноўваць гэтую кнIгу зь сёньняшнIм днём /маем на ўвазе больш цI менш адкрытае абмеркаваньне сёньня крытычнага становIшча беларускае мовы, культуры/, дык мусIм дзеля справядлIвасьцI зазначыць, што мае яна даволI лIбэральны зьмест, хаця й рыхтавала грамадзкую думку да сёньняшняга прарыву. ВIдавочна, што цяпер беларуская нацыянальна-сьвядомая ІнтэлIгенцыя пайшла значна далей у выкрыцьцI антынароднай палIтыкI русIфIкацыI беларускага народу, якая за савецкIм часам пачала праводзIцца з канца 20 гадоў. Але на тэй час кнIга Алега Бембеля мела для беларускае бюракратыI выразна "антысавецкI" зьмест. Гэта каштавала яму партыйнага бIлету ды працы ў Інстытуце. ТаленавIты паэта Анатоль Сыс напIсаў верш-прысьвячэньне Алегу Бембелю. Сёньня мы прапануем яго ўвазе нашых чытачоў.

ПАЭТ

На памежжы чужыны з Айчынай  
Па начох ходзIць сумны Паэт,  
Ён запаленымI вачыма  
Як агнём апякае сьвет.

А камусьцI са спрат здаецца:  
Блудзіць зорка па-над мяжой,  
Быццам ёй не хапае мейсца  
I нябёс на зямлI сваёй.

Хто пакрыўдзIў цябе, Паэце ?  
Хто прымусIў цябе блудзIць —  
Бог цI Дэман — у гэтым сьвеце ?  
Што Ты хочаш душы здабыць ?

I за што Ты марнуеш цела ?  
Можа досыць зь цябе ахвяр ?  
Сядзь, даверся паперы белай —  
I надзея асьвецIць твар.

Сядзь, пакайся за раны целу,  
Яно ж братам тваёй душы.  
ЦI жадала яно, цI ж хацела,  
Каб Ты з гэтай пакутай жыў ? —

НА ПАМЕЖЖЫ ЧУЖЫНЫ З АЙЧЫНАЙ...  
КРОК ЯШЧЭ — I НЯМА МЯЖЫ...

Спадар Алег ня толькI нязломны змагар за БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ, але й паэта Божага дару, прычым паэта-хрысьцIянIн, якI усёй сваёй творчасьцю Імкнецца прышчапIць нашым счарсьцьвелым душам парасткI спрадвечнае хрысьцIянскае маралI. РобIць ён гэта, выліваючы ў сваIх вер-

шах шчырую любоў да Хрыста й Айчыны. Летась у Амэрыцы, у Нью-ЁркскІм выдавецтве "Беларус", была выдрукавана яшчэ адна кнІга Алега Бембеля — "Рэха малІтвы". Гэтая невялІчкая памерам кнІжка — зборнІчак вершаў фІлязофскага, патрыятычнага ды падкрэсьлена хрысьцІянскага пляну. Сумна, але, вІдаць, І яна гэтак жа ня хутка трапІць у рукІ тутэйшага чытача! Зрэшты, справа за нашай актыўнай пазыцыяй, за перабудовай.

КалІ ў пана Алега часам пытаюцца, чаму, маючы гэткІя салІдныя выданьнІ, ён да сёньняшняга часу ня сябра /член/ Саюзу пІсьменьнІкаў БеларусІ, то ён жартам паказвае заяву.

В Союз писателей СССР. Уважаемые коллеги ! Прошу Вашей поддержки в нижеизложеной просьбе, ибо к Вашему голосу в Минске — во всех сферах ! — прилушиваются очень внимательно. С уважением Алег Бембель. 8.07. 88.

У Саюз пІсьменьнІкаў БеларусІ
Танку.
ГІлевІчу.

Ізноў /як І летась/ прашу прыняць мяне ў Ваш саюз, бо...

... у КраІне сІняй, дзе я ўваскрасаю,
у сузор'І мар, найбялейшых у сьвеце,
я нэ самотны, я кнІжку маю
з друкарнІ панІ ... Маргарэт Тэтчэр ...

/ з заявы 1987 г. /

... Марыся Тэтчэр — сваёй ральлёй
пайшла ... болей поле маё не арэ яна ...
другая кнІжка самоты маёй —
з друкарнІ пана ... Рональда Рэйгана ...

лІпень-1988 г.

Алег Бембель

І апошняе. ПсэўданІм паэта "ЗьнІч", гэтак беларусы спрадвеку называлІ Дух СьмерцІ. ВІдаць, гэтым паэт хоча яшчэ раз нагадаць беларусам, што яшчэ крок-І яны апынуцца на мяжы духовага зьнІшчэньня.

"Студэнцкая Думка": "Шаноўны спадар Алег, Вы госьць II-га Вальнага Сойму БеларускІх Патрыятычных Суполак. ЯкІя гэта выклІкае ў Вас пачуцьцІ?"

— Паспрабую выказаць свае пачуцьцІ ў вершы "Вальны Сойм".

ВАЛЬНЫ СОЙМ

... ля Кастуся, ля ГэдымІна,
пад небам ВІленскІх крыжоў
мая палонная Айчына
сабрала Сход сваІх сыноў.

... І Той, Хто быў — Нябачны' — з намІ
/тут шмат прыйшло — у Яго Імя!../,
жывІў лІцьвІнаў СьвятарамІ ...
маленьнІ вернІкаў прыняў ...

Сусьветаў І Сьвятла Араты
араў праменную Ральлю ...
Сьвятар — хто ў сэрцах творыць Сьвята ...
хто лучыць Неба І Зямлю ...

Сьвяты палёт ПагонІ вольнай ...
на ПлашчанІцы — Краю кроў ...

... на Вальным Сойме
ў ВІльнІ Стольнай
я ўчуў КрывІцкІх Сьвятароў!..

Менск-ВІльня 14-15 студзеня 1989

"Студэнцкая Думка": "ВІльня — старадаўні цэнтар беларускае культуры. Але да апошняга часу тут ня было беларускага культурнага асяродку. Як бы Вы схарактарызавалі гэткае становішча ?"

— Гэткае пытаньне заўсёды выклікала ў мяне супроцьлеглыя пачуцьці. Найлепей, відаць, я акрэсьліў іх у сваім вершы "Сталіца".

СТАЛІЦА
Можа й добра, што Вільню забралі ?..
Бо — каб н а ш а й сталіцай была —
у магілах бы Храмы ляжалі
на пагосьце бятону і шкла.

Толькі й страціўшы с ь в е т не скарыцца
мой народ. Як шляхотны Кастусь.
Т а м нашчадкаў Скарыны сталіца,
дзе д у х о ў н а
Жыве Беларусь!



ГУЛЬНЯ У КОСЬЦІ НА-БЕЛАРУСКУ........

"Студэнцкая Думка": "Пане Алег, Вы доўгі час займаліся праблемамі хрысьціянства ў кантэксьце беларускай культуры. Якая роля хрысьціянства ў паустаньні беларускае культуры ?"

— Як Вы лічыце, ці можна ўявіць сабе беларусаў без Ефрасіньні Полацкай, Францішка Скарыны, Максіма Багдановіча, большасьці нацыянальных беларускіх дзеячоў да 30-х гадоў ? А між іншым, усе яны былі хрысьціяне.

"Студэнцкая Думка": "Ці можна дакладна акрэсьліць, хто ўсё ж беларусы па веравызнаньню ?"

— Я называю хрысьціянства на Беларусі трохгалосным. Фэномэн нашае Беларусі ў хрысьціянскае сумоўнасьці, талерантнасьці. Адзін з маіх вершаў гэдак і называецца: "Хрысьціянская сумоўная Беларусь".

ХРЫСЬЦЬЯНСКАЯ СУМОЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Трохгалосную Аўтакефалію
Ты ўпляла ў вянок вякоў:
праваслаўным дала ў кампанію
пратэстантаў, каталікоў ...

атуліла іх Мовай лагоднаю —
Мовай зьнічак і бліскавіц ...
І нянавісьць — не-вера-годную
для Хрысьцьянства! — зрынула ніц.

"Студэнцкая Думка": "Што дала хрысьціянізацыя беларусам, беларускай культуры ?"

— Тое, што Творца ўдыхнуў у гліну: "Дух Сьвяты".

"Студэнцкая Думка": "Зараз сярод нацыянальна-сьвядомай беларускай моладзі, што, зрэшты, характэрна й для іншых нацыяў, якія перажываюць сваё АДРАДЖЭНЬНЕ /літоўцаў, латышоў, эстонцаў/, шырыцца ідэя адраджэньня паганства /язычніцтва/, зьяўляюцца нават рок-гурты, якія сьпяваюць, паводле іхніх словаў, у стылі стод-рок /стодам беларусы пакланяліся ў часы паганства, "стод" па-расейску "идол"/. Як Вы ставіцеся да гэтага?

— "Без мяне нічога ня зробіце" — сказаў Хрыстос вучням сваім. Эстэтычны бляск паганства, як Боская песьня прыроды -- жывога тварэньня Божага, чаруе мяне, як Зорнае Неба, як Сьвітаньне, як Сутоньне. Адраджэньне паганства ў нейкім фальклёрным сэнсе можна зразумець, але ня ў большым. Ці можа прагрэс людзтва ісьці праз спрашчэньне, праз вяртаньне да больш простых, першапачатковых формаў? Таму людзтва без Хрыста -- гэта як храмы зь сечанымі крыжамі, ператвораныя ў "канцэртовыя залы".

"Студэнцкая Думка": "Пане Алег, у сваёй паэтычнай творчасьці Вы шмат надаяце ўвагі хрысьцьянскім матывам. Наколькі ўласьцівая беларускай культуры хрысьцьянская паэзія? Што маем увогуле зь літаратурнае хрысьціянскае спадчыны , і яшчэ ці ня здолілі б Вы зрабіць кароткі агляд з хрысьціянскага друку?

— О... Колькі ўсяго адразу! Гэта вельмі вялікі абсяг. Каб схарактарызаваць нават самае галоўнае, патрэбна не адна гадзіна. Раю зьмясьціць у адным з нумароў "Студэнцкае Думкі" грунтоўны рэфэрат па гэтых пытаньнях. Адсылаю Вас да доктара філязофскіх навукаў У.М.Конана і старшыні гісторыка-мэмарыяльнай камісіі Беларускага фонду культуры М.Ф.Дубянецкага, а таксама да айца Ўладзіслава зь Вішнеўскага касьцёлу /Валожынскі раён/, якія ў гэтых пытаньнях больш дасьведчаныя.

"Студэнцкая Думка": "Наколькі рэальна, на Вашу думку, БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ ?"

— Настолькі рэальна, наколькі рэальныя шанцы ў чалавецтва выжыць. Працяг зямной чалавечай гісторыі магчымы толькі як сумоўе вольных, здаровых духам народаў. Раю ўсім чытачам "Студэнцкае Думкі" прачытаць мой верш, надрукаваны ў № 1 часопіса "Крыніца" за 1989 г., ён называецца "Белы сьвет".

"Студэнцкая Думка": "І апошняе. Шаноўны спадар Алег, што б Вы пажадалі "Студэнцкай Думцы" і ейным чытачам?

— Жадаю, каб "Студэнцкая Думка" ды ейныя чытачы "сэрцам трывожным пачулі" чатырохрадкоўе "Хрыстос і Айчына".

ХРЫСТОС I АЙЧЫНА

Раскрыжаваньне кат завершыў ...
аблашчыў кужаль кроў Жыцьця ...
так: ПлашчанIца -- гэта Першы
мой Бел-Чырвона-Белы Сьцяг!..

"Студэнцкая Думка": "Дзякуй Вам вялIкI, пане Алег, за цIкавую гутарку. З Вашага дазволу мы зьмесьцIм на старонках нашага друку колькI Вашых вершаў".

АДРАДЖЭНЬНЕ

"А што, скажыце
"адраджаць"?.."

Г.С.Таразевіч,
цяперашні Прэзідэнт
БССР.

"ЗВЯЗДА", 19.XI.88 г.,
стар. 4.

"Што адраджаць?.." Прыроду, Мову -
што зруйнавалі бюракраты.
Народ, пад чэрапам якога
сталінска-брэжнеўскія краты.

... каб вольна ўсе маглі зьбірацца
і на "Купальле", й на "Гуканьне..."
на "ДЗяды" каб не адбівацца
ад ценяў д"ябальскіх вяртаньня...

"Што адраджаць?.." Ды й вашы душы,
зьмярцьвелыя ў пасадных целах.
І Храмы, што бандыт парушыў.
І Веру ў сэрцах апусьцелых...

Менск, 20 лістапада 1988 г.

ГІМН УВАСКРОШАНЬНЯ



Беларуская вялIкодная пIсанка

дзесяць стагоддзяў справа Хрыстова
на Беларусі крывавіць у сэрцах.
дзесяць стагоддзяў мусім нанова
біцца зь нячыстым у паняверцы.

хто з нас адважыцца - сёньня і людна -
выйсьці на Плошчу і перахрысьціцца?..
хто бараніць ад глумленьня - паўсюдна! -
Імя Сьвятое не забаіцца?..

людцы, над процьмаю самазьнішчэньня
ўславім Хрыста, што за нас пакараны!
кожны - далучыцца да ўваскрашэньня...
кожны - пакліканы...
кожны - абраны...

СХОД ВЫБАРШЧЫКАЎ

У апошні дзень
вылучэньня кандыдатаў
па месцы жыхарства

Нас – тысяча. А ён – адзін,
наш паслугач з Райвыканкаму,
сказаў паныла: "Разойтись!.." –
і ... разышліся паслухмяна.

Даваўся нам нязвыклы шанц –
с в а і х  пазначыць кандыдатаў.
... на волю выпусьцілі нас...
а мы і тут:
пастух і ...
статак...

Ня будзьма ж статкам і далей –
у хвілю волевыяўленьня.
Зямляк! Аддай свой бюлетэнь,
аддай свой Голас – АДРАДЖЭНЬНЮ!

Менск,
вечар 24 студзеня 1989 г.,
сход выбаршчыкаў Савецкага
і Першамайскага раёнаў,
кінатэатр "ПАРТЫЗАН".




## У ДУХУ ЗАСТОЙНАГА ЧАСУ

**Мікола Ермаловіч**

В.Мялешка I З.КапырскI ў артыкуле "Фактам вопреки" ("Советская Белоруссия" ад 28.7.1987 г.) выразIлI сваю незадаволенасьць тым, што першы сакратар Саюза пIсьменьнIкаў БеларусI Н.С.ГIлевIч у сваIм дакладзе на пленуме праўленьня Саюза ў чэрвенI гг. зрабIў варты зьдзIўленьня выпад у адрас беларускай савецкай гIстарычнай навукI I вучоных-гIсторыкаў, сказаўшы ў адносIнах да апошнIх, што яны ў большасьцI сваёй "усё яшчэ сядзяць над абэцэдарскIм каўпаком I баяцца вытыркнуць з-пад гэтага каўпаку галаву", I што гэтым самым ён "па сутнасьцI абвIнавацIў беларускую гIстарычную навуку ў "абэцэдаршчыне". Усё гэта, на Iх думку, пазбаўлена усялякIх падстаў.

Вядома, Н.Гілевіч, які рабіў аналіз стану сучаснай беларускай літаратуры, ня меў магчымасьці гэтак жа падрабязна разглядзець стан гістарычнай навукі Беларусі. Аднак гэта ня значыць, што ён, як на гэта робяць намёк у канцы свайго артыкула В.Мялешка і З.Капырскі, недастаткова ведае гістарыяграфію нашай рэспублікі і таму без разбору робіць напады на дзейнасьць беларускіх гісторыкаў. Якраз наадварот, кароткая, але вельмі трапная характарыстыка сучаснай беларускай гістарыяграфіі яскрава сьведчыць аб грунтоўным знаёмстве Н.Гілевіча з апошняй.

Найперш аўтары артыкула ськдзіўлены, як яны кажуць, нападкамі Н.Гілевіча на беларускага вучонага-гісторыка Л.С.Абэцэдарскага ("зараз ужо нябожчыка"). І ў той жа час, не заўважаючы гэтага,яны далі яму зьнішчальную характарыстыку, адзначыўшы, што ў гістарыяграфіі Беларусі ніколі не было ніводнай канцэпцыі, што насілі б яго імя. Як жа можна сур'езна характарызаваць каго-небудзь, як вучонага, калі ен за ўвесь час сваей так званай навуковай дзейнасьці не выпрацаваў ніводнай канцэпцыі ці пазіцыі. Чым жа ён тады займаўся? Паўтараў усё ўжо дасьледаванае? Л.Абэцэдарскі сапраўды нічога істотнага ў навуку ня ўнёс. Аднак яго навуковая бездапаможнасьць не перашкаджала яму прэтэндаваць на ролю вядучага сьпецыяліста па гісторыі Беларусі, асабліва пасьля таго,калі ен дамогся ступені доктара гістарычных навук і сеў на пасаду загадчыка катэдры гісторыі БССР у БДУ. Як і ў свой час Лысенка, прабраўшыся на высокія навуковыя пасады, шкодзіў разьвіцьцю савецкай біялагічнай навукі, так і Л.Абэцэдарскі, карыстаючыся сваім становішчам, пачаў насаджаць свае вельмі абмежаваныя погляды на гісторыю Беларусі. Гэтага ён дасягаў як сваім удзелам у напісаньні кніг і падручнікаў па гісторыі Беларусі, так (і гэта найперш) шляхам апублікаваньня на старонках органаў друку сваіх крыклівых крытычных опусаў, у якіх безапеляцыйна разносіў усіх тых, хто выказваў іншыя погляды на гістарычныя факты, чым ён. І самае важнае тое, што ён выдаваў усё гэта за адзіна правільнае,адпаведнае марксісцка-ленінскай мэтадалёгіі. Аднак фактычна ўсё гэта супярэчыць ёй.

---

Асабліва характэрныя ў гэтых адносінах яго "Заўвагі гісторыка" (гл. "ЛіМ" ад 6.І.1970.г.), якія зьяўляліся рэцэнзіяй на "Гісторыю беларускай дакастрычніцкай літаратуры". Тут у сканцэнтраваным выглядзе выявіліся спрошчаныя ўяўленьні Л.Абэцэдарскага аб шэрагу найважнейшых пытаньняў і этапаў у гісторыі беларускага народу. Ён, напрыклад, сцьвярджаў, што ў час Кіеўскай дзяржавы не існавалі паасобныя славянскія плямёны, якія быццам бы былі цалкам паглынутыя старажытнарускай народнасьцю.

Але К.Маркс называў "Імперыю Рурыкавічаў" шматковай (цыт. па кнізе Б.Грэкава "Кіеўская Русь", 1939, с.167),і таму яна не магла быць маналітнай. Сапраўды, летапісы называюць у гэты час розныя плямёны, як, напрыклад, дрыгавічоў у 1149 г., крывічоў пад 1162г. радзімічаў пад 1169 г., г. зн. тады, калі Кіеўская дзяржава ўжо распалася, і яны, такім чынам, яе перажылі. Гэтыя факты адмаўляюць і другі тэзіс Л.Абэцэдарскага, што названыя плямёны не былі непасрэдна тымі этнічнымі адзінкамі, зь якіх склалася беларуская народнасьць. Трэба зазначыць, што літаратуразнаўцы - аўтары "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" паказалі ўсю абсурднасьць сцьверджаньняў Л.Абэцэдарскага ("Адказ гісторыкаў" , "ЛіМ"

ад 3.3.1970 г.). Аднак, як гэта ня дзІўна, апошнІя прыжылІся ў беларускай гІстарыяграфII I сталI бясспрэчнымI IсьцІнамI.

/Працяг у наступным нумары/.

# ОНІКА·КРОНІКА·КРОНІКА·КРОНІКА·КРОНІКА·

## Урок дэмакратыі

### (Пра сход па вылучэньні кандыдатаў у дэпутаты)

Мейсца: Менск, БТІ, актавая зала.
Час : 20.I.89., а I6-й гадзІне.

У пажарным парадку на катэдрах былI складзеныя сьпІсы дэлегатаў на агульны сход працоўнага калектыву. Незразумела, чаму на сход не былI дапушчаныя дэлегаты ад студэнцкIх групаў, – цІ мо йІм забаронена вылучаць дэлегатаў? За каго зьбIралIся галасаваць – невядома, таму што сакратар парткаму В.СІмановІч загадзя папярэдзІў, што галасаваць будзем толькІ за "сваIх". БюлетэнІ на галасаваньне выдавалIся ў фае залы па сьпІсах з нумарацыяй за кожным прозьвІшчам. ТакІм чынам, магчымасьць тайнага "волевыяўленьня народу" была выключана па распрацаванэй арганІзатарамI сходу праграме. Мерапрыемства пачалося з абвяшчэньня В.Сімановічам наяўнасьці кворуму !прыблізна 500 дэлегатаў! і мэтаў сходу. Зноў было адмыслова падкрэсьлена, што вылучаць будзем толькі прадстаўнікоў БТІ. Нікім не абраны шматлікі "ганаровы прэзідыум" заняў мейсцы і ... фарс пачаўся.

Спачатку дэлегаты "аднадушна" аддалі свае галасы за камісіі па праправядзеньні выбараў ад нашага інстытуту. А потым узяў слова прадстаўнік ЛІФ, які прапанаваў па ТВА № 563 вылучыць ад БТІ ...мастака М.Савіцкага, вядомага ня толькі сваімі творамі, але і сьнежаньскім выступленьнем у рэспубліканскім друку супраць "Мартыралогу Беларусі". Падрыхтаваныя прамоўцы дружна агітавалі калегаў за мастака-аднадумца.Карацей, усё ішло гладка да таго моманту, калі сяброўка групы падтрымкі БНФ старшы навуковы супрацоўнік Л.Макатун прапанавала вылучыць па ТВА № 563 пісьменьніка А.Адамовіча. Спецыяльна падрыхтаваныя дэлегаты пад дырыгенцтвам В.Сімановіча не далі прамоўцы нават проста да канца расказаць кароткую біяграфію нашага славутага земляка. Тое ж самае паўтарылася, калі сябра БНФ навуковы супрацоўнік М.Шмыг падтрымаў прапанову вылучыць па НТВА № 68 рэктара інстытута І.Жарскага і зрабіў спробу больш падрабязна распавесьці пра грамадзкую пазіцыю А.Адамовіча. Машына "жалезнай партыйнай дэмакратыI" закруцIлася на поўную моц. Спробы прамоўцаў ад БНФ неяк скІраваць ход абмеркаваньня кандыдатураў па сапраўды дэмакратычным рэчышчы сустрэлI злосную рэакцыю В.СІмановІча, а калІ ён убачыў каля ўстаноўленага ў зале мІкрафона незнаёмага яму грамадзянІна, дык "сваёй уладаю" адмовІў апошняму ў праве выказацца. Абурэньне ў зале паводзІнамI нашага "партыйнага лІдэра" нарастала. "ЗаўвагI", якIя рабІў падчас сходу тав. В.СІмановІч, выклІкалI часам у дэлегатаў усьмешкі. Ён вІдавочна блытаў, куды абІраюць дэлегатаў : цІ то ў дэпутаты Вярхоўнай Рады СССР, цІ то Вярхоўнай Рады БССР; у якую выбарчую акругу: ці то ў тэрытарыяльную, цІ то ў нацыянальна-тэрытарыяльную. КалІ ж справа дайшла да галасаваньня, зала выбухнула ад прапановы В.СІмановІча правесьцІ тайныя выбары ... пранумараванымI бюлетэнямI. Пасьля доўгIх дэбатаў вырашылI галасаваць адкрыта. Але ў надзеI на традыцыйную "аднадушнасьць" народу камІсІя падлІкоўцаў парткамам "створана" не была. Таму за М.СавІцкага, па "дакладных" падлІках В.СІмановІча, прагаласавала ... "больш паловы"/?!/, а за А.АдамовІча ... "меньш ста" /??!/. За рэктара прагаласавалI аднадушна, за выключэньнем 3-х, што устрымалIся.

Незадаволеная такIмI "арыгIнальнымI" мэтадамI падлIку галасоў,зала, натуральна, патрабавала справядлIвасьцI. АрганIзатараў фарсу ўратаваў дэкан ЛГФ Л.Ражкоў, якI прапанаваў сход лIчыць закрытым. Прапанова была з удзячнасьцю падтрымана "ганаровым прэзIдыўмам" I,нават не падсумаваўшы "вынIкI", дэлегатаў сходу прымусIлI разыйсьцIся.
Зь якIмI ўражаньнямI?

## УВАГА! ІНФАРМАЦЫЯ ДА РОЗДУМУ

Паводле апошнIх зьвестак, у БеларускIм тэхналягIчным Iнстытуце створана ё групаў падтрымкI /ГП/ Беларускага Народнага Фронту /БНФ/ за перабудову "Адраджэньне". Агульная колькасьць удзельнIкаў ГП каля 100 чалавек. Пэўны палIтычны й маральна псIхалягIчны клIмат Iнстытута не дазволIў адразу усIм прагрэсIўным сIлам зьяднаць намаганьнI. Таму гуртаваньне у ГП адбывалася: студэнтаў па курсах, а выкладчыкаў па катэдрах.
Рэдакцыя "Студэнцкае ДумкI" зьвяртаецца да ўсIх ГП Iнстытута з пытаньнем: "ЦI ня варта ўжо выходзIць усIм ГП на агульна-IнстытуцкI ўзровень ?". На думку РэдакцыI насьпеў момант выпрацоўкI агульна Iнстытуцкае праграмы дзеяньняў, кансалIдацыI ўсIх прагрэсIўных сIлаў, што апынулIся па-за створанымI ўжо ГП.

## -ДЫ НЯЎЖО ?!.
## -ДЫ ПРАЎДА...
## -ДАЖЫЛІСЯ!..

Чарговы раз былI вывешаныя "НавIны" АрганIзацыйнага камIтэту БНФ "Адраджэньне" на дошцы "Текущий момент", што у 4-ым корпусе на 2-Iм паверсе /ля пераходу у першы корпус/ I... чарговы раз былI зьнятыя партыйна-IдэалягIчнай службай Iнстытута. Але ж цешыць тое, што на гэты раз яны правIселI на I5 хвIлIн болей, чым мIнулы. Спадзявваймася, што гэтая тэндэнцыя захаваецца I надалей.



ЛЯ РУЛЯ...

Гэты сумны факт наводзIць на думку: "Мо надышоў ужо час вылучыць адмысловае мейсца пад насьценную газэту для ўсIх ГП БНФ "Адраджэньне", утвораных у нашым Iнстытуце? Трэ нарэшце перастаць партыйна-камсамольскаму кIраўнIцтву Iнстытута гуляць у дэмакратыю."

## ЕСТКІ: АБ'ЯВЫ: АБВЕСТКІ: АБ'ЯВЫ: АБВЕСТКІ

УВАГА ! ! !

Рэдакцыйная суполка "Студэнцкае Думкі" паведамляе:

а/ у сувязі зь цяжкім фінансавым становішчам просім усіх спадароў, якія зацікаўленыя ў далейшым жыцьці "Студэнцкае Думкі" падтрымаць нас праз сталыя ахвяраваньні. Сабекошт аднаго нумара нашае часапісі 30 капеек. Рэдакцыя мяркуе выдаваць каля 15 нумароў штогод.
Наш разьліковы рахунак: 164901 ПЕРШАМАЙСКІ ЖЫЛСАЦБАНК, АСАБІСТЫ РАХУНАК 11736, АШЧАДНАЯ КАСА № 7459 / 0271 ТРАЯНОВІЧ ЮРЫ ЭРНЭСТАВІЧ.

б/ паведамленьні пра зробленыя ахвяраваньні, а таксама замаўленьні пра неабходную колькасьць нумароў для перасылкі просім дасылаць на адрас адказнага распаўсюджвальніка: БЕЛАРУСЬ, м.МЕНСК, 220018, вул. АДЗІНЦОВА, д. 22, кв. 113, корпус 1, ЦЯМРУК АЛЕСЯ.

/працяг са старонкі 6/

уладай, маюць устойлівыя палітычныя правы грамадзяніна. Да гэтае катэгорыі лучацца ўсе асобы, якія маюць сталую прапіску /у асобаў з часовай прапіскай і без прапіскі прававыя стасункі з органамі ўлады няўстойлівыя, таму яны сюды не ўваходзяць/ пад час увядзеньня ў дзеяньне закона.
Надалей для атрыманьня грамадзянства Беларусі /асобам, што прыяжджаюць з-за межаў Беларусі/ павінны стаць цэнзы ўзросту, аселасьці і валоданьня беларускай мовай.

**Алесь Гуркоў**

УВАГА !!!

Шаноўныя чытачы ! Рэдакцыя "Студэнцкае Думкі" распачала мэтавую падрыхтоўку нумароў, прысьвечаных беларусізацыі вышэйшых навучальных установаў і экалягічным праблемам. З гэтае нагоды зьвяртаемся да Вас з просьбаю:
а/ дасылаць матар'ялы па праблемах мовы ў Вашых Інстытутах, Праграмы беларусізацыі, цікавыя зьвесткі, прапановы;
б/ дасылаць матар'ялы /гэта найперш датычыць Інстытуцкіх Дружынаў аховы прыроды, разнастайных экалягічных клюбаў і суполак, школьных лясьніцтваў, а таксама ўсіх, каго хвалююць экалягічныя праблемы/ пра сваю дзейнасьць, праграмы, артыкулы, кроніку экалягічнага стану рэгіёнаў, абвесткі і г.д.

УВАГА !!!

Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх студэнтаў, выкладчыкаў ды іншых зацікаўленых асобаў з просьбаю дасылаць матар'ялы характару культурна-грамадзкага, палітычнага, эканамічнага, навуковага, літаратурна-мастацкага, гумарыстычнага, сатырычнага, абвесткі.

Наш адрас: Беларусь, 220100, места Менск, вул. М.Горкага, д.143, кв.65 Гуркову Алесю. Тэл. 34-42-78 - хатні.

Нумар падрыхтавалі: Кавальчук Алена, Аніськова Галіна, Трусаў Аляксей, Гуркоў Алесь, Ладуцька Сяржук, Шпайбовіч Францусь.